**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 7.46, 16.05, 8.19;
Віцебск — 7.41, 15.50, 8.09;
Магілёў — 7.35, 15.55, 8.20;
Гомель — 7.27, 15.57, 8.29;
Гродна — 8.02, 16.20, 8.18;
Брэст — 7.54, 16.29, 7.35.
**МЕСЯЦ:**
Апошняя квадра 17 лістапада.
**ІМЯНІНЫ**
Апанаса, Нікандра, Нікана, Хведара, Валерыя, Яўгена, Кірыла.



# ЗВЯЗДА

20 ЛІСТАПАДА 1992 г. пятніца, № 233 (22011)



● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

# РОЗГАЛАС

## Аб тым, як у асобна ўзятым раёне Амерыцы «нос уціраюць», а за сваім прасачыць не могуць

СЛОНІМ. Асноўныя эканамічныя паказчыкі сельскай гаспадаркі раёна ў параўнанні з самымі перадавымі краінамі свету не толькі выглядаюць вельмі прыстойна, але нават і пераўзыходзяць іх. Так, у 1992 годзе на Слонімшчыне атрымана на душу насельніцтва збожжа 1.098 кілаграмаў, а ў ЗША—1.253. Адпаведна: бульбы —328 і 68, малака —600 і 269, мяса —178 і 123. Трэба сказаць, што сельскагаспадарчая вытворчасць раёна арыентуецца акрамя Беларусі і на рынак іншых краін СНД, і перш за ўсё Масквы і Санкт-Пецярбурга. Але яны ў апошні час аддаюць перавагу дапамозе замежных дзяржаў. У выніку гэтага ў Слонімскім раёне з мая гэтага года ператрымліваецца 5 тысяч галоў жывёлы, што ўжо нанесла страты мясцовым гаспадаркам на 90 мільёнаў рублёў.

## Аб візіце беларускай урадавай дэлегацыі ў Рэспубліку Малдова

19 лістапада пачаўся афіцыяльны візіт у Рэспубліку Малдова беларускай урадавай дэлегацыі на чале са Старшынёй Савета Міністраў Вячаславам Кебічам. У праграме візіту — перагаворы з прэзідэнтам Малдовы Мірчам Снегурам, старшынёй парламента Аляксандру Машану і прэм'ер-міністрам Андрэем Сангелі, а таксама сустрэчы з работнікамі пастаяннага прадстаўніцтва Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Малдова, прадстаўнікамі Беларускага культурнага таварыства, наведанне Фалешцкага раёна Малдовы.

Чакаецца падпісанне пагадненняў аб добрасуседстве, дружбе і супрацоўніцтве паміж дзвюма краінамі, а таксама аб устанаўленні паміж імі дыпламатычных адносін.

**Служба інфармацыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь — БЕЛІНФАРМ.**

ПАВЕДАМЛЕННЕ ДЗЯРЖАЎНАГА КАМІТЭТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА СТАТЫСТЫЦЫ І АНАЛІЗУ

## АБ ІНДЭКСЕ СПАЖЫВЕЦКІХ ЦЭН

Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па статыстыцы і аналізу паведамляе, што ў кастрычніку 1992 года ў параўнанні з вераснем 1992 года індэкс цэн на харчовыя і нехарчовыя тавары і паслугі, уключаныя ў «спажывецкую карзінку», склаў 111,0 працэнта. Індэкс спажывецкіх цэн за кастрычнік, вылічаны нарастаючым вынікам да чэрвеня 1992 года, прынятага ў якасці базіснага перыяду, склаў 157,4 працэнта.

У кастрычніку ў параўнанні са снежнем 1991 года кошт уключаных у мінімальную «спажывецкую карзінку» тавараў і паслуг узрос у 10,9 раза.

**Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па статыстыцы і аналізу.**

## ПРАФСАЮЗНАЯ ХРОНІКА

Прэзідыум Савета ФПБ прыняў заяву ў сувязі з прапануемым чарговым павышэннем рознічных цэн і абмежаваннем росту заработнай платы. У ёй гаворыцца, што рэгуляванне, а не «замарожванне» заработнай платы можа быць ажыццёўлена толькі адначасова з абмежаваннем росту цэн, адменай падатку на дабаўлены кошт на асноўныя харчовыя тавары і медыкаменты, устанаўленнем фіксаванай надбаўкі да адпускной цаны прадпрыемства-вытворцы, вышэй за якую тавар не можа быць рэалізаваны спажыўцам. Прэзідыум Савета ФПБ лічыць, што далейшае пагаршэнне становішча працоўных недапушчальнае, становіцца рэальнай небяспека сацыяльнага выбуху.

**Прэс-цэнтр Савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі.**

## СУСТРЭЧА ПЕРАНОСІЦЦА

Сустрэча кіраўнікоў дзяржаў Садружнасці, якая намячалася на 4 снежня, па іх узаемнай дагаворанасці пераносіцца на 18 снежня. Месца правядзення ранейшае — сталіца Рэспублікі Беларусь горад Мінск. Аб гэтым карэспандэнту БЕЛІНФАРМа паведамілі ў мінскай штаб-кватэры СНД.

**БЕЛІНФАРМ.**

## Разліковы білет супраць рубля: пачынаюцца баі мясцовага значэння

**Прайшло дзесяць дзён, як расійскаму рублю на Беларусі быў нанесены адчувальны ўдар, калі «драўляныя» адсеклі ад харчовых тавараў, гарэлкі і цыгарэт. За гэты час многа вады сплыло, не менш, прабачце за каламбур, «сплыло» і рублёў з тэрыторыі рэспублікі, а таму «Звязда» працягвае знаёміць вас з апошнімі падзеямі на фронце барацьбы паміж арміяй «драўляных» і арміяй «звярыных».**

Па рэдакцыйных каналах мы атрымалі звесткі аб урадавай тэлеграме, якую Камісія Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь са складанай назвай «па каардынацыі работы і аператыўнаму вырашэнню пытанняў паралельнага абарачэння рублёў і разліковых білетаў Нацыянальнага банка РБ» накіравала ва ўсе аблвыканкомы і абласныя ўпраўленні Нацбанка рэспублікі, у Мінгарвыканком і адпаведнае банкаўскае ўпраўленне, Аграпрамбанк і іншыя зацікаўленыя структуры. Калі перавесці змест тэлеграмы на зразумелую для шырокіх народных мас мову, то ён будзе выглядаць наступным чынам.

Па-першае, у залежнасці ад рэальнай абстаноўкі на месцах кампетэнтныя органы (аблвыканкомы і абласныя ўпраўленні Нацыянальнага банка) могуць цяпер самі прымаць рашэнні аб рэалізацыі асобных **нехарчовых тавараў толькі за разліковыя білеты** (выдзелена аўтарам) і чэкі з чэкавых кніжак РБ, патрабуючы пры гэтым дакументы, якія пацвярджаюць прыналежнасць пакупніка да нашай рэспублікі. Па-другое, абмен разліковых білетаў на рублі і рублёў — на разліковыя білеты на месцах дазволена ажыццяўляць, улічваючы інтарэсы насельніцтва. Адначасова, з мэтай недапушчэння масавага вывазу тавараў, адпаведным органам рэкамендуецца ўзмацніць кантроль на дарогах і транспарце. Мэты з'яўлення гэтага дакумента, як бачна з самой тэлеграмы, самыя высакародныя — абарона мясцовага спажывецкага рынку ад скідвання рублёў з дзяржаў, якія выйшлі з рублёвай зоны. Відавочна, што ўрад перадаў рублёва-«зайцавыя» паўнамоцтвы мясцовым органам улады. А гэта значыць, што ў любы дзень (можа, нават і сёння) у Брэсце альбо Віцебску любы тавар будзе прадавацца толькі за разліковыя білеты, ды яшчэ пасля прад'яўлення пашпарта. Такім чынам, пачынаюцца «баі мясцовага значэння» і калі, напрыклад, у Гомелі вы зможаце за «драўляныя» набыць аўтамабіль, дык у Мінску рызыкуеце застацца нават без карабка запалак.

Вядома, што асобам, якія прыбылі на Беларусь не ў камандзіроўку, абмен рублёў на разліковыя білеты ажыццяўляецца з адпаведным 30-працэнтным камісійным зборам. І вось у апошні час з'явіўся новы від бізнесу. Цэлыя групы пасрэднікаў — жыхароў Беларусі за

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

ПОСТФАКТУМ

## Краіна, якая ніколі не будзе для нас «дальнім замежжам»



**Мінск — першая са сталіц краін былога СССР, якую наведала новы прэм'ер-міністр Польшчы Ханна Сухоцка. Нават калі «першынство» гэта — выпадковасць, — усё роўна выглядае яно сімвалічна.**

Нягледзячы на тое, што кіраўнікі Беларусі не раз заяўлялі аб прыярытэце для краіны арыенціраў, якія размешчаны за нашымі ўсходнімі граніцамі, — Польшча была і застанецца адным з галоўных партнёраў Беларусі. І не толькі ў эканоміцы. Нас звязваюць стагоддзі агульнага гістарычнага лёсу, а таксама этнічная і культурная блізкасць, якую ніяк нельга скідваць з рахункаў.

Цяжка ўявіць беларускую эканоміку без цеснай інтэграцыі з расійскімі сыравіннымі крыніцамі. Але яшчэ цяжэй гаварыць аб будучыні, не наладжваючы сувязі з Захадам. У бліжэйшыя гады Беларусі міжволі давядзецца менавіта там шукаць і дзелавых партнёраў, і эканамічную падтрымку, і мадэлі свайго будучага развіцця. Непрадказальная Расія імкліва падае ў эканамічную бездань, цягнучы за сабой чатырнаццаць сіямскіх блізнят, у недалёкай будучыні пагражае разрадзіцца новымі палітычнымі і сацыяльнымі ўзрушэннямі. У гэтых умовах нам цяжка разлічваць на стабілізацыю. Наша краіна проста асуджана шукаць шляхі ў цывілізаваны свет, — аднабаковая арыентацыя на Усход мела б у бліжэйшыя гады катастрафічныя для Беларусі вынікі.

З пяці дзяржаў, з якімі Беларусь мае агульную граніцу, Польшча — адзіная, дзе крайні пункт эканамічнага крызісу пераадолены. У нашых заходніх суседзяў спынены спад у эканоміцы, а па выніках сёлетняга года чакаецца нават невялікі двухпрацэнтны рост. Падаюць тэмпы інфляцыі. Злоты стаў канверсуемай валютай. Паліцы магазінаў запоўніліся таварным дастаткам, — і зараз яны мала адрозніваюцца ад заходніх. У апошнім, найбольш наглядным выніку эканамічных рэформ тысячы грамадзян Беларусі пераконваюцца ўласнымі вачыма, наведваючы з «неафіцыяльнымі камерцыйнымі візітамі» польскія базары.

Нам яшчэ належыць прайсці гэты нялёгкі шлях. Беларуская эканоміка пакуль што коціцца пад гару. Сувязі з суседзямі, дзе новы гаспадарчы механізм пачаў даваць плён і эканоміка пайшла на папраўку, маглі б дабратворна паўплываць на нашу гаспадарку і змякчыць вынікі крызісу.

Мяркую, беларускае кіраўніцтва, ведучы перагаворы з польскай урадавай дэлегацыяй, мела на ўвазе перш за ўсё гэтыя інтарэсы.

Пакет дакументаў, падпісаных у Мінску, — сціплы. Найважнейшы з дагавораў — аб скасаванні падвойнага падаткаабкладання даходаў і маёмасці. Падобны дагавор з Масквой Варшава ўжо падпісала — днямі ён быў ратыфікаваны расійскім Вярхоўным Саветам. Пагадненне аблегчыць эканамічныя сувязі, скасуе лішнія звенні пры фінансавых разліках.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

СПЕЦЫЯЛЬНА ДЛЯ «ЗВЯЗДЫ»

## У КДБ запахла новай фарбай. І новымі сенсацыямі аб карупцыі

**У калідорах будынка Камітэта дзяржаўнай бяспекі рэспублікі стаіць моцны пах новай фарбы. Як мне растлумачылі, ідзе капітальны рамонт. Справа не частая, але патрэбная.**

**Яшчэ доўга будзе гучаць рэзананс, выкліканы выступленнем шэфа нашай службы бяспекі Эдуарда ШЫРКОЎСКАГА на сесіі Вярхоўнага Савета. Эдуард Іванавіч згадзіўся даць спецыяльнае інтэрв'ю нашай газеце.**

**— Чарговы залп вашага ведамства па карупцыі зроблены. Якія яго першыя вынікі?**

— Я сустракаўся з членамі Прэзідыума Вярхоўнага Савета, са Старшынёй нашага ўрада Вячаславам Кебічам, яго намеснікамі М. Косцікавым і М. Мясніковічам. Мэта сустрэч адна — як аб'яднаць намаганні ў барацьбе са службовымі злоўжываннямі і падняць грамадскасць для навядзення парадку. Больш трываць проста нельга. Да мяне, асабліва пасля выступлення на сесіі, прыходзяць дэлегацыі рабочых, сялян, інтэлігенцыі са сваімі сігналамі аб хабарніцтве і «бязмежжы» ўлад на самых розных узроўнях. Трэба вызначыцца ў стратэгіі і тактыцы барацьбы з гэтым спрутам, і чым хутчэй мы гэта зробім, тым лепш будзе для нас і нашай краіны.

**— У грамадскіх незалежных камісіях, якія вы прапануеце стварыць, некаторыя ўжо бачаць цень усёмагутных бескантрольных Надзвычайных камісій.**

— Уся наша дзейнасць накіравана якраз на тое, каб нават і думка пра апошніх не прыходзіла нікому ў галаву. Пра іх бескантрольнасць нават і гаворкі весціся не можа. На маё меркаванне, ядром такіх камісій павінны стаць супрацоўнікі Міністэрства ўнутраных спраў. Мы са свайго боку таксама будзем дапамагаць. Галоўная мэта камісій відавочная — на месцах усё лепш і больш бачна людзям, якія там працуюць.

**— Пасля першага чытання Закона аб КДБ і ў вашага ведамства з'явіліся большыя магчымасці для навядзення парадку?**

— Мы фактычна існавалі па-за законам. Нас дзе-нідзе ўвогуле не прымалі ўсур'ёз. Напрыклад, затрымалі цыстэрну з бензінам без ліцэнзіі, якая накіроўвалася за межы рэспублікі. А ўладальнікі цыстэрны пытаюць: «А хто вы такія? Міліцыю ведаем, пракуратуру таксама, а вас пакуль на паперы ўвогуле не існуе».

Таму цяпер ужо можна спакойна і з большай упэўненасцю працаваць. Што новага хацелася б адзначыць у нашай дзейнасці, дык гэта тое, што мы цяпер стаім у першую чаргу на абароне правоў грамадзян, а ўжо потым — дзяржавы.

**— Вы сказалі ў сваім выступленні на сесіі, што некаторыя дэпутаты, людзі, якія павінны абараняць інтарэсы дзяржавы, самі пападаліся на вельмі непрыгожых справах.**

— Павінен яшчэ раз сказаць, што камітэт не можа сам караць ці прыцягваць да адказнасці народных выбраннікаў. Гэтым па закону павінны займацца вышэйшыя органы ўлады. Я неаднаразова даводзіў патрэбную інфармацыю і да Прэзідыума Вярхоўнага Савета, і да Саўміна. На чым пападаліся дэпутаты? На кантрабандзе, на іншых «непаразуменнях» з праваахоўнымі органамі.

**— У небезвядомай 588-й пастанове Саўміна таксама называліся канкрэтныя прозвішчы некаторых службовых асоб. Аднак, наколькі мне вядома, большасць з іх атрымалі і атрымліваюць усяго толькі**

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

3495

## Першы крок беларускіх ваўчэраў?

Магчыма, з 1 ліпеня 1993 года ў Беларусі ўвойдзе ў сілу Закон «Аб імянных прыватызацыйных чэкавых кніжках у Рэспубліцы Беларусь».

Такі вывад маглі зрабіць прысутныя, якія прыйшлі на пасяджэнне Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па эканамічнай рэформе, дасягненню эканамічнай самастойнасці і суверэнітэту, дзе 18 лістапада абмяркоўваўся блок законаў па прыватызацыі.

Адразу скажам, што праекты законаў «Аб раздзяржаўленні і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці» і «Аб імянных прыватызацыйных чэках у Рэспубліцы Беларусь» вялікіх спрэчак на пасяджэнні не выклікалі і ў цэлым былі ўспрыняты станоўча.

Старшыня камісіі Леанід Козік азнаёміў з праектамі законаў, якія пасля перапынку будуць разгледжаны на сесіі.

Вядома, чытачоў у першую чаргу цікавіць пытанне, што яны будуць мець пасля прыняцця гэтых законаў. Можна адразу адназначна сказаць — прыватызацыйныя чэкі. Частку дзяржаўнай уласнасці па праекце мяркуецца бясплатна перадаць грамадзянам Беларусі ў выглядзе трох квот: на жыллё, зямлю, маёмасць дзяржаўных прадпрыемстваў і камунальнай гаспадаркі. Адзін чэк (адразу папярэдзім чытачоў, што лічбы прыводзіліся прыкладныя) роўны 0,17 квадратнага метра жылля, 0,2 га зямлі, або 819 рублям па дзяржмаёмасці ў цэнах 1991 года. Прычым мяркуецца, што чэкі будуць мэтавымі. Што гэ-

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## У зорачкі шанцаў мала...

Як паведамілі з прэс-цэнтра Міністэрства абароны, заканчваецца распрацоўка форменнага адзення для ваеннаслужачых беларускай арміі. Калі палявая камуфляжная форма, адзіная для ўсёй арміі, сумненняў ні ў кога не выклікае, то штодзённая парадна-выхадная і парадная яшчэ будуць дапрацоўвацца з улікам нацыянальнай воінскай геральдыкі, якая павінна быць зацверджана парламентам рэспублікі. На думку распрацоўшчыкаў, шанц традыцыйнай зорачкі ўпрыгожваць форму беларускага ваеннаслужачага вельмі малы, паколькі многія звязваюць яе з камуністычным, таталітарным мінулым.

**БЕЛІНФАРМ.**




ВАША ЗДАРОЎЕ

## Аб карысці аўсянкі

Усе віды аўсяных круп пры разварванні ў вадзе ствараюць слізістую бялкова-крухмальную масу, якая ачышчае абалонку страўніка. Слізістыя адвары ахоўваюць страўнік ад іншай, яшчэ не ператраўленай, ежы, а самі добра засвойваюцца. Таму адвары з аўсяных круп прызначаюцца пры абвастрэнні язвеннай хваробы страўніка, дванаццаціперснай кішкі, гастрытах, калітах, харчовых атручэннях. Аўсяная каша дапамагае таксама выдаліць са страўніка свінец.

Слізістыя аўсяныя адвары выкарыстоўваюцца і пры малакроўі, якое ўзнікла з-за нястачы ў арганізме жалеза.

Аўсяныя крупы багатыя біяцінам, рэчывам, якое сінтэзуецца ў кішэчніку бясшкоднымі бактэрыямі, а часткова паступае з ежай. Недахват біяціну выклікае слабасць, санлівасць, кепскі апетыт, болі ў мышцах, губляюцца смакавыя адчуванні. Асабліва адбіваецца яго дэфіцыт у арганізме на скуры, якая становіцца сухой, лушчыцца, з'яўляюцца запаленні, выпадаюць валасы. Відаць, нездарма аўсянку называюць «кашай прыгажосці».

Гэтыя крупы — адна з крыніц і вітаміна Е, які з'яўляецца антыакісляльнікам, папярэджвае адкладанне халестэрыну, утварэнне тромбаў. Вітамін Е актывізуе работу мышцаў, у тым ліку і сардэчнай, а яго нястача вядзе да бясплоддзя.

Ёсць спосаб лячэння гіпертанічнай хваробы ў пачатковай стадыі, а таксама пасля інфаркту міякарда. 1 шклянку аўса кіпяцяць у 1 л вады, пакуль вада не ўкіпіць удвая, працэджваюць і п'юць па 1/2 шклянкі ў суткі сталовымі лыжкамі.

Аўсяныя дні зніжаюць цукар у крыві. Асабліва карысная аўсяная каша пры абвастрэнні цукровага дыябету метабалічным ацыдозам. Для разгрузкі на дзень выкарыстоўваюць 200 г сухой аўсянай крупы ці геркулесу, з якіх гатуюць кашу без цукру на вадзе. Гэтую норму дзеляць на пяць порцый па 140 г.

Піццё — адвар шыпшыны. Такія ж разгрузачныя дні праводзяць пры хранічным запаленні нырак, ныркавай недастатковасці.



## Пра маслёнку

У абястлушчаным малацэ, сыроватцы, маслёнцы ўтрымліваюцца многія састаўныя часткі малака ў розных спалучэннях і колькасцях. Каларыйнасць маслёнкі невысокая, 33—36 калорый у 100 грамах. Але каштоўнасць яе не ў калорыях, а ў адносна павышаным утрыманні высокаактыўных у біялагічных адносінах рэчывах. У маслёнцы ёсць малочны цукар, бялок, мінеральныя рэчывы, тлушч, вітаміны А, В, Д, Е, біяцін, РР, халін, фасфацыды, якія рэгулююць клетачны абмен, у тым ліку лецыцін.

Лецыцін уплывае на працэс усмоктвання тлушчу, папярэджвае атлусценне печані. Яго нармалізуючае ўздзеянне на ўзровень халестэрыну ў плазмы крыві пацверджана шматлікімі назіраннямі.

Людзі пажылога ды і іншых узростаў, якія вядуць малярухомы лад жыцця, павінны атрымліваць лецыцін сістэматычна. Але не ўсім рэкамендуецца ўжываць у штодзённым рацыёне багатыя лецыцінам яечныя жаўткі, мазгі. А вось маслёнка для іх падыходзіць. У такой колькасці, як у маслёнцы, лецыціна-бялковыя комплексы ў іншых прадуктах не сустракаюцца.



Тое ж можна сказаць і пра тлушч маслёнкі. У параўнанні з тлушчам масла ён утрымлівае больш поліненасычаных тлушчавых кіслот, якія рэгулююць халестэрынавы абмен, умацоўваюць сценкі крывяносных сасудаў і засцерагаюць печань ад атлусцення.

Малочны цукар — лактоза — садзейнічае развіццю малочнакіслай мікрафлоры ў кішэчніку, што папярэджвае і стрымлівае развіццё гніласных працэсаў. Дыетычны тварог з маслёнкі, багаты бялком, лецыцінам і іншымі карыснымі рэчывамі, і кісламалочныя напіткі пажаданыя ў харчаванні людзей пажылога ўзросту і разумовай працы. Кісламалочныя напіткі, асабліва скваршаныя культурамі ацыдафільнай палачкі, дапамагаюць пры страўнікава-кішачных захворваннях.

Маслёнку выкарыстоўваюць у дыетычным харчаванні. Яе ўжываюць, калі неабходна абагаціць рацыён бялком без павелічэння каларыйнасці і ўтрымання тлушчу пры дыспепсіі і іншых страўнікава-кішачных парушэннях.

Маслёнка і прадукты з яе рэкамендуюцца пры некаторых захворваннях печані, нырак і нервовай сістэмы, а ў шэрагу выпадкаў — для лячэння скурных захворванняў. Ва ўніверсітэцкай клініцы горада Фрэйбурга (ФРГ) маслёнка «Эледон» у выглядзе канцэнтрату прымяняецца для лячэння лускаватага лішая (псарыязу) і як дадатковы тэрапеўтычны сродак выкарыстоўваецца пры дыспепсіі, пры атэрасклерозе і кальцынозе.

**(Па матэрыялах часопіса «Наука и жизнь»).**

ДАЎРАЧЭБНАЯ ДАПАМОГА

## Галавакружэнне неўралагічнае

Яно часам суправаджаецца падзеннем або млоснасцю і ванітамі. Іншы раз бывае прадвеснікам эпілепсічнага прыпадку. Узнікае пры раздражненні сувязей унутранага вуха з карой галаўнога мозгу або пры іх пашкоджанні. Гэта бывае звязана з неўрозамі, хваробай Меньера, мігрэнню, неўрытам слыхавога нерву, ваганнямі артэрыяльнага ціску, шыйным астэахандрозам, дыфузным таксічным валляком, атручваннем, малакроўем.

Асабліва моцныя галавакружэнні звязаны з запаленнем галаўнога мозгу, траўмамі чэрапа, пухлінамі галаўнога мозгу, рассеянным склерозам. Нярэдка развіваюцца пры парушэнні мазгавога кровазвароту пры цукровым дыябеце, атэрасклерозе мазгавых сасудаў, ішэмічнай хваробе сэрца.



АКАЗАННЕ ДАПАМОГІ пры раптоўным галавакружэнні, якое суправаджаецца як правіла, шматразовымі ванітамі, збялеласцю ці пачырваненнем твару, патлівасцю, сэрцабіццём, змяненнем слыху ці зроку, хворага неабходна пакласці і прымусіць яго ляжаць, не рухаючыся.

Паспрабуйце ліквідаваць крыніцы шуму і святла, прыкрыўшы чым-небудзь мяккім галаву і закрыўшы вокны. Калі прыступ галавакружэння развіваецца разам з галаўным болем і не суправаджаецца ванітамі, хвораму неабходна прыняць таблетку цытрамону, аскафену, новаміграфену, спазмалгону ці кафетаміну або іншае лякарства, назначанае раней урачом з выпадку падобнага прыступу.

Калі пасля гэтага самаадчуванне не палепшылася або калі прыступ галавакружэння ўзнік упершыню, неабходна выклікаць «хуткую дапамогу».

**Таццяна ФАМІНА, кандыдат медыцынскіх навук.**



## Ласьёны нашых прабабак

**Добра дзейнічаюць на скуру ласьёны хатняга вырабу.** Святаяннік, падбел, крываўнік, шалфей змяшаць у роўных частках. Сталовую лыжку гэтай сумесі заварыць шклянкай кіпеню (у шкляным ці эмаліраваным посудзе), шчыльна закрыць, ухутаць і пакінуць на ноч. Раніцай працадзіць, змяшаць адвар з 50 г адэкалону—і ласьён гатовы. Ён выкарыстоўваецца ў спякоту для патлівай, тлустай скуры. Адвар (без адэкалону) можна замарозіць у формачках для лёду і кавалачкамі яго праціраць скуру твару раніцай.

**Для такога ж тыпу скуры падыходзіць і наступны ласьён:** настой з кары дубу і вярбы (па чайнай лыжцы на 200 г вады) змяшаць са сталовай лыжкай воцату і развесці вадой у суадносінах 1:10. Праціраць, а ў спякоту—апаласкваць твар.

Сумесь траў (у роўных колькасцях)—плюшчу палявога, браткоў, наготкаў, рамонку і дубовай кары здрабніць. Сталовую лыжку сумесі заліць кіпенем, прагрэць 10—15 хвілін, даць настаяцца, працадзіць. Такім адварам добра праціраць любую скуру, якая пачынае старэць.

# БЕЛАРУШЧЫНА

АБРАЗОК ЦЫТАЦА

## Чэмпіёнка

**Гэты ліст, падпісаны жаночым імем, прыйшоў у рэдакцыю з вёскі Гудзевічы Мастоўскага раёна. Для многіх сяброў беларушчыны будзе дастаткова такой згадкі, каб раскрыць тайну псеўданіма. Мы не будзем рабіць гэта... прамалінейна. Проста скажам, што якраз у такім выпадку для нас важная спасылка на моўны выбар вядомага гудзевіцкага настаўніка-асветніка Алеся БЕЛАКОЗА.**

**Вы зможаце заўважыць, што арфаграфічна нататка аформлена па тых правілах, якім падпарадкоўваюцца фальклорныя запісы. Яны павінны як мага больш дакладна захоўваць асаблівасці мясцовага маўлення. І тут дасведчаны аўтар не змог абысціся без мяккага знака...**

Некалькі гадоў не была ў роднай вёсцы. І вось нарэшце як на крыллях лячу. Першую сустракаю бабулю Марылю, ці, як яе называюць часам у нашай вёсцы, Чэмпіёнку. Бабулі больш за дзевяноста, а яна з рыдлёўкай у руках корпаецца на асфальце. Вітаюся і цікаўлюся, што яна робіць тут з рыдлёўкай. Бабуля Марыля зажаліласа, амаль плача, нават некалькі слязінак скацілася па ссохлай маршчыністай шчацэ:

— Шкадую, што машыны разбіваюцца. Чамусьці тут асфальт перакапалі, то раўчук упоперак дарогі зьявісо. Раўнюю і прысыпаю кожаняк дзень, а як машына ідзе, то сцішая ход: мусі калдобіны застаюцца.

— Роўна ж тут, бабулю. Чаго вы хвалюецеся? Машыны сцішаюць ход, бо бачаць, што насыпана сьвежая зямля.

— А-а, мусі твая праўда, бо Мікалай Мініч тут часта егдзіць, то нясецца, як бура, і нічога.

— Ці ж вам рамантаваць дарогу? Хай бы маладзейшыя папрацавалі тут.

— У іх свае справы, а як не прысыпаць равок, то і бяда можа стацца.

Дзякую вам, бабуля, што так дбаеце пра людзей!

Я падбегла да бабулі Марылі і знянацку для яе і для сябе, бо не збіралася гэтага рабіць, моцна-моцна пацалавала яе ў шчаку. Пасля гэтага з нейкай палёгкай пабегла дахаты, да мамы.

Не буду апісваць, колькі радасці было нам ад сустрэчы, але назаўтра я раскавала пра святы ўчынак Марылі Шантарыхі.

— Ой, дзетачкі, — падхапіла мама, — яе ж нашы маладыя за дурную лічаць: убачыла каля школы разбітую бутэльку, то сабрала ўсе асколкі шкла ў прыпол і каля хаты высыпала ў дзіравую жалезную бочачку: кажа, што шкло пабітае дзяржава павінна зьбіраць і пераплаўляць на добрае, бо гэта ж людская праца. І прымаць яго мус, бо дзеці ці набытак могуць пакалечыцца. Нават настаўнікі сьміюцца зь яе: «Дзеці ў нас босыя ні ходзяць, а кароў каля школы ні бывая» — думаюць, што яна шкло зьбірая з-за сквапнасьці, а Марыля жабракам усю пенсію параздае. Ціпер яна, як падымая камень які з дарогі ці шкло або дрот, та азіраецца, каб ніхто ні бачыў: сьміяцца будуць.

У Настулі Кісялёўскай, як тая нагу паламала, выбрала ўсю бульбу, хоць і ў самой нogі баляць, ледзьве ходзіць. Настуліну гаспадарку ўпраўляла. Як ёсьць сьвятыя, то гэта Марыля. Такіх людзей ужо амаль няма.

— Маму, а чаму яе называюць Чэмпіёнкай?

— Як прыйшла з турмы, та людзі пыталіса, за што сядзела, а яна адказвала:

— Сьледчыя казалі, што я нека чэмпіёнка, бо ад цёткі з Амэрыкі пісьмо атрымала.

— А за што арыштавалі ў трыццатых яе мужа, дзядзьку Мікалая?

— У час вайны напалі на іх бандыты; абрабаваць хацелі. Хоць зямлі ў іх было небагата, але яны ўсё мелі, бо надта старанныя абоя.

— То ці абрабавалі іх тады?

— А як жа. Усенько забралі. Нават матке на кужаль якраз вывырыла ў лузе цётка Марыля, памыла ў рацэ і на гарышчы павесіла сушыцца, бо тады неяк дажджы часта падалі, то і матке тыя забралі. Хлапчук гадоў чатырнаццаці сказаў бацьку:

— Тату, забіраймо матке, бо мама казала, каб і іх бралі.

— Каб ты, сынок, здароў знасіў тую кашулю, што маці вытча з крадзеных маткоў, — толькі і пажадала Марыля.

— Маўчы, бо застрэлю, — кляцнуў затворам абрэза хлапчук.

Пры другіх саветах гэтыя бандыты назваліся партызанамі і былі вялікімі начальнікамі. Вось яны і пасадзілі дзядзьку Мікалая. Там ён і загінуў.

...Цяпер праводзяць людзі, асабліва начальнікі, ваду, тэлефон, газ. Шмат дзе перакапаны асфальт. Няхай бы і маладзейшыя ўзялі прыклад з бабулі Марылі. Бо адзін мой знаёмы начальнік, якому нядаўна праводзілі тэлефон і пракапалі асфальт супраць яго-най хаты, на маю заўвагу пра роў адказаў:

— Яго не закапаеш: машыны зноў выб'юць.

Нешта каля хаты бабулі Марылі і асфальт, і перакапаны роў зраўняліся і гладкія, як шкло.

**Алена ГРАМАДА.**

СВЯТЫЯ МЕСЦЫ

**Сярод храмаў Мінска, што захаваліся па сённяшні дзень, сваю адметную гісторыю мае Святапетрапаўлаўскі (Святакацярынінскі) сабор, які месціцца ў раёне былога Ніжняга Рынку, дзе калісьці працякала славутая Няміга. Сціснуты з аднаго боку новазбудаваным каменным гмахам і шчыльна абмежаваны з другога боку бойкай вуліцай, гэты храм паступова аднаўляецца з небыцця мінулых гадоў; нягледзячы на ўсё перажытае ў далёкім і блізкім мінулым, адраджаецца для таго, каб зноў несці людзям свет любові і дабра. Аб чым жа можа расказаць нам яго гісторыя, якія падзеі захоўваюцца ў яе таямніцах!**

**НА ЗДЫМКУ:** Святапетрапаўлаўскі сабор у Мінску. Пачатак XX стагоддзя.

## Сабор на Нямізе

Заснавана Святапетрапаўлаўская царква была на пачатку XVII стагоддзя праваслаўнымі жыхарамі Мінска на пляцы, што выдзеліла для іх княжна Друцкая-Горская, удава каралеўскага маршалка Багдана Сцяткевіча. Будаўніцтва новага храма ў горадзе было звязана з тым, што пасля заключэння Берасцейскай вуніі 1596 года мясцовыя уніяты адабралі ў праваслаўных усе цэрквы, якія належалі ім спрадвеку. Таму, застаўшыся без малітоўнага памяшкання, апошнія вымушаны былі прыступіць да ўзвядзення новай святыні. Пры гэтым яны вырашылі пабудаваць не толькі царкву, але і манастыр. 52 шляхцічы і мешчаніны Мінскага ваяводства бралі на сябе абавязак узвядзення цэлага храмавага комплексу, які б падначальваўся Віленскаму Святадухаву манастыру, буйнейшаму асяродку праваслаўя на Беларусі. Праз некаторы час храм святых апосталаў Пятра і Паўла і манаскія келлі былі пабудаваны. Па благаслаўленню Іерусалімскага Патрыярха Феафана пры новай царкве ўтварылася праваслаўнае брацтва, названае ў імя Св. Іаана Хрысціцеля. Народ аб'ядноўваўся ў брацтвы, каб лягчэй бараніцца ад уціску з боку уніятаў і каталікоў. Самае першае брацтва ў Мінску ўзнікла яшчэ на пачатку 90-х гг. XVI ст. пры царкве нараджэння Багародзіцы, што стаяла ў замку. Звычайна пры брацтвах ствараліся школы, адчыняліся друкарні і шпіталі. У хуткім часе і брацтва Св. Іаана Хрысціцеля займела сваю школу, адкрыла шпіталь.

У гаротныя часы ганенняў на праваслаўе, выпаўшыя на XVII ст., Святапетрапаўлаўская царква не раз з'яўлялася сведкай несправядлівасцяў, якія спаткалі «люд веры грэчаскай». Невыпадкова ў 1619 г. мінская праваслаўная шляхта скардзілася ў Літоўскі Трыбунал на зняважлівыя адносіны да іх царквы ваяводы Мінска Пятра Тышкевіча, які «нарушаючи право и волности шляхецкие... наступаючи на сумнения людския и на веру старожитную греческую» перашкаджаў заканчэнню будаўніцтва манастыра, нават выказваў намер зруйнаваць яго ушчэнт. Намеры яго, аднак, не спраўдзіліся...

У 1632 г. замест нецярпімага да іншаверцаў езуіцкага караля Жыгімонта III на польскі трон узышоў Уладзіслаў IV. Па яго ўказцы ў Рэчы Паспалітай былі прыняты «Статьи для успокоения народа русского греческой религии...», якія троху аблегчылі становішча праваслаўя на Беларусі.

«Статьи...» Уладзіслава IV не на доўгі час палепшылі міжканфесійныя адносіны ў Рэчы Паспалітай. Ужо з канца XVII стагоддзя Святапетрапаўлаўская царква разам з манастыром паступова прыходзіць у заняпад. У 1691 г. архімандрыт манастыра Пётр Пашкевіч на працягу трох сутак быў вымушаны бараніць царкву ад узяўшых яе ў аблогу уніятаў на чале з плебанам Салганам Юрэвічам. У 1722 г. манастыр не вытрымаў часовай аблогі і быў разрабаваны людзьмі Міхаіла Глінскага. Але самае жахлівае адбылося 10 лютага 1734 г., калі ў царкву ўварваўся натоўп мінскіх канфедэратаў, пры гэтым паны Счэсновіч і Унгер заехалі ў храм вярхом на конях і з ружжаў сталі паліць па алтару і абразах. Пасля гэтага нападу манастыр збяднеў канчаткова.

Бядотнае становішча Святапетрапаўлаўскай царквы прыцягнула ўвагу да яе рускай імператрыцы Кацярыны II. Пасля далучэння беларускіх зямель да Расіі, у 1795 г. Святапетрапаўлаўскі храм быў перайменаваны ў імя святой велікапакутніцы Кацярыны. Пад гэтаю назваю ён таксама ўвайшоў у гісторыю.

У перыяд з 1795 па 1799 гады Святакацярынінскі храм быў кафедральным саборам Мінскай епархіі, але потым быў ператвораны ў звычайную прыхадскую царкву.

Небагатая неабходным начыннем, Святакацярынінская царква на пачатку XIX ст. атрымала значныя ахвяраванні ад прыватных асоб. Адзін толькі купец Іван Ракаў падараваў ёй розных царкоўных рэчаў коштам у паўтары тысячы рублёў. На жаль, у 1812 годзе храм зноў пацярпеў ад рабаўніцтва. Заняўшы Мінск, французы спустошылі яго так, што набажэнства ў ім адрадзілася толькі праз два гады пасля вызвалення горада ад напалеонаўскіх войскаў. Пакуль жа храм прыводзіўся ў належны выгляд, службы правіліся ў адзінай прыпісной да яго царкве Св. Марыі Магдаліны на Старажоўскіх могілках.

У 1844 годзе прыход Святакацярынінскай царквы значна пашырыўся, бо да яе прыпісалі сяленні і асобныя гарадскія кварталы, якія дагэтуль уваходзілі ў прыход драўлянай Св. Уваскрасенскай царквы, што была зачынена з прычыны свайго ветхага становішча. Пасля гэтага царква на Нямізе набыла статус гарадскога сабору.

На самым пачатку 70-х гадоў мінулага стагоддзя Святакацярынінскі сабор рамантаваўся і быў перабудаваны. Над яго асноўным аб'ёмам узвялі вялікі купал і поўнасцю абнавілі іканастас, тады зрабілі роспіс асобных фрагментаў сцен. Усяго на адзначаныя работы затрацілі каля 2 тысяч рублёў.

Цяжкія выпрабаванні спаткалі служыцеляў і вернікаў сабору пасля рэвалюцыі 1917 года. Мы не шмат ведаем пра тыя часы. Да 1933 года сабор усё яшчэ быў адчынены. Храм на Нямізе зачынілі глыбокай восенню 1933 года. Тады ж былі зарыштаваны епіскап Філарэт і служыўшыя яму святары. Вясною 1938 года з сабору знялі вялікі купал, а ў яго памяшканнях размясцілі нейкія гандлёвыя канторы. На доўгія восем гадоў у храме спынілася богаслужэнне.

Вернікі зноў адкрылі сабор узімку 1941 года. 7 снежня епіскап Філафей Нарко занава асвяціў храм, на гэты раз у гонар святых апосталаў Пятра і Паўла. Пад час вайны ў царкве служыў а. Іосіф Балай. Пасля вызвалення горада ад немцаў у снежні 1944, сабор зачынілі...

З тых часоў прайшло 46 гадоў. Спачатку храм стаяў у запусценні, потым у ім размясціліся архіўныя ўстановы. І толькі нядаўна Святапетрапаўлаўскі сабор адкрыў свае дзверы для вернікаў. 7 снежня 1991 года ў саборы на Нямізе была адслужана першая ў пасляваенны час літургія. На ўрачыстай службе прысутнічаў мітрапаліт Мінскі і Беларускі Філарэт. Людзі плакалі ад радасці, калі ішло тое гістарычнае набажэнства.

Сёння старажытнейшы праваслаўны храм Мінска аднаўляецца. Як і сотні гадоў назад, у ім гучаць святыя словы малітвы, на чале з настаяцелем храма прот. Георгіем Латушкам дзейнічае нядзельная школа, пры царкве ўтворана брацтва імя Трох Віленскіх пакутнікаў.

**Хведар КРЫВАНОС.**

## Мова мая, мова

Не магу заставацца ўбаку, чуючы і назіраючы тое, што робіцца вакол нашай Мовы. Мой пратэст, маё абурэнне, мой адчай—у гэтым трыпціху. Хачу, каб яго пачулі менавіта зараз, менавіта праз вашу газету.

**Соф'я ШАХ**

### Трыпціх

**1.**

Мова мая, Мова,
як жа табе выжыць!!
Зноў цябе нервова
шморгаюць, мурыжаць.

Зноўку распінаюць
вэрхалам неновым,
зноўку вырашаюць
лёс твой палыновы.

Так ужо ўзяліся
выплятаць высновы,
так ужо зайшліся
гвалтам тэрміновым...

З'едлівыя душы,
цьмяныя галовы...
Ну няўжо не здужыш
наступ іх чарговы!!

**2.**

Як ім цяжка зразумець,
як няўцямна ўрэшце ім,
што табе прастору мець
Богам дадзена самім.

Што ў цябе з глыбінь вякоў,
І цяпер, і там, пасля,
ёсць і будзе зноў і зноў
Гэта існая зямля.

Што пакуль жыве народ, —
так, народ, а не ізгой,—
нават і ў часы нягод
ты — галоўная на ёй!

**3.**

Мая ласкавая, пяшчотная,
мая да саменькага «я»,
дасць Бог, дарогаю свабоднаю
зноў стане доля-каляя.

Дасць Бог, і тыя шчэ
спахопяцца,
і вернуцца шчэ да цябе,
што так цяпер пагардай
томяцца,
Так насміхаюцца цяпер.

Дасць Бог, не будзеш ты ім
ношаю, —
спасцігнуць, можа, назаўжды.
якая ж ты сабой прыгожая,
якая велічная ты...

ГАЛАСЫ ДЫЯСПАРЫ

ВАЛЯНЦІН ГРЫЦКЕВІЧ:

## «Ініцыятыва павінна зыходзіць ад роднага краю»

**Наша гутарка з Валянцінам ГРЫЦКЕВІЧАМ, гісторыкам, медыкам, філолагам, актыўным дзеячам беларускага руху, дацэнтам Санкт-Пецярбургскага інстытута культуры, адбылася ў Ваенна-медыцынскім музеі горада на Няве, дзе ён адказвае за дарэвалюцыйны аддзел экспазіцыі па гісторыі медыцыны. Пачалася гутарка з пытання, якое найбольш хвалюе тых, хто па волі лёсу апынуўся далёка ад Радзімы.**

**— Валянцін Пятровіч, як вы лічыце, каму павінна належаць ініцыятыва ў наладжванні сувязей паміж беларускай дыяспарай у свеце і Беларуссю?**

— Зразумела, роднаму краю. Бо самі суполкі, як і кожны жывы арганізм, могуць перажываць узлёты і падзенні ў сваім развіцці, а галоўнае —не маюць таго асяродку штодзённасці, які не дазволіў бы страціць адчуванне Адраджэння. І, што казаць, не маюць магчымасці атрымаць матэрыяльную падтрымку. Зусім натуральным мне здаецца ўтварэнне нейкай дзяржаўнай арганізацыі, накшталт камісіі ці падкамісіі Вярхоўнага Савета па справах дыяспары, бо, скажам, згуртаванне «Бацькаўшчына» ці Скарынаўскі цэнтр — гэта ўсё ж ініцыятыўныя грамадскія арганізацыі, а ў адносінах да дыяспары неабходна будаваць дзяржаўную палітыку не на год ці два, а на дзесяцігоддзі. Ці ж суседнія з Беларуссю краіны не займаюцца справамі дыяспары на афіцыяльным узроўні? Няўжо Беларусь павінна адставаць ад іх у гэтым?!

**— Як вядома, Пецярбург быў калыскай духоўнага адраджэння і духоўнага росту многіх беларусаў, якія мелі тут прытулак, напрыклад, Кастусь Каліноўскі ці Янка Купала. Не прыніжаючы ролі іншых грамадскіх і культурных дзеячаў мінуўшчыны, якія спрыялі росту свядомасці беларускай нацыі, спынімся пакуль толькі на адным факце — на існаванні ў Пецярбурзе беларускай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца». Ці можаце Вы правесці нейкія паралелі паміж дзейнасцю суполкі, якую Вы ўзначальваеце, і суполкай Купалы і Эпімах-Шыпілы?**

— Аднавіць традыцыі колішніх пецярбургскіх гурткоў было б вельмі карысным, але для гэтага патрэбна падтрымка беларускіх эканамічных колаў. Тады можна было б разлічваць на нейкі рэальны, канкрэтны вынік. А наконт паралеляў, то, здаецца, і наша суполка мае неблагія творчыя гуманітарныя сілы, якія робяць адчувальны ўклад у развіццё беларускага мастацтва і літаратуры, спрыяюць пашырэнню гуманітарных ведаў. Дай Божа і надалей развіваць гэту традыцыю.

**— А чаму «дай Божа»? Вас нешта засмучае ў гэтых адносінах?**

— Засмучае недастатковая, каб не сказаць «ніякая», матэрыяльная база нашага таварыства, без якой — асабліва ў наш пераменлівы час — нельга ўвасобіць у жыццё аніякай з'явы духоўнай культуры. Пакуль што мы не маем спонсараў. Мо таму, што дрэнна шукаем іх?

**— А якія падзеі, вартыя ўвагі, можаце Вы пералічыць, што можна было б без усялякіх скідак запісаць у актыў дзейнасці таварыства?**

— За апошні час я назваў бы выхад у свет газеты «Родзічы» і, зразумела, уздзвіжэнне на Левашоўскай пусташы — Пецярбургскіх Курапатах — памятнага крыжа ахвярам таталітарызму па ініцыятыве сябра БГКТ Анатоля Разумава. Гэтыя дзве падзеі з'яўляюцца пэўным этапам у дзейнасці суполкі і сведчаць пра яе сталасць.

**— А ў планах на будучае? Што цікавае чакае пецярбургскіх беларусаў — сяброў суполкі, — а таксама тых беларусаў, якія жывуць на Беларусі?**

— У першую чаргу спадзяёмся на скліканне беларусазнаўчай канферэнцыі ў горадзе на Няве, якую рыхтуе сябра БГКТ Мікола Нікалаеў, а таксама выстаўку групы мастакоў Балтыі «Маю гонар».

**— Валянцін Пятровіч, а ці часта Вы самі бываеце на Беларусі? Ці дае яна імпульс для Вашай творчай працы?**

— На жаль, радзей, чым хацелася б. А пра імпульс — ці ж могуць тут быць якія сумненні?!

**— А ці згадзіліся б Вы трывала жыць на Беларусі? І калі не, то чаму?**

— Чаму ж — «не»? Калі б я бачыў, што дзяржаўныя колы ўсур'ёз зацікаўлены ў сапраўднай беларусізацыі гістарычнай навукі і адукацыі ў родным краі, я з ахвотай прыняў бы ў гэтым удзел, хоць наездамі, хоць трывала. Але пакуль што не бачу гэтай зацікаўленасці амаль нідзе, у прыватнасці, і з боку міністэрства адукацыі, бо для рэфармавання гістарычнай навукі і адукацыі патрабуецца нешта большае, чым тое, што робіцца цяпер. Робіцца мала, і праз тое складаецца ўражанне, што шмат хто спадзяецца на тармажэнне развіцця беларускай гістарычнай навукі, на захаванне ў ёй старых русіфікатарскіх несамастойных стэрэатыпаў, міфаў, легенд. Гэткае становішча задавальняе шматлікія кадры выхаванцаў колішняй, наскрозь саветызаванай навукі, бо ім у такім выпадку няма патрэбы мяняць свае далёкія ад аб'ектыўнасці погляды на беларускую мінуўшчыну.

**— Валянцін Пятровіч, але пасля гэткіх Вашых адказаў складаецца нейкае дзіўнае, нават двоістае ўражанне, нібыта не толькі Вы, але, пэўна, і ўсе мы прымацаваны да нейкага маятніка, які гайдаецца то туды, то сюды. З аднаго боку — уздым, адраджэнне, а з другога — мо і нябачны пакуль, але ўжо адчувальны песімізм, цемра, безвыходнасць. Ці не памыліўся я ў гэтым адчуванні, і ці мае яно пад сабой нейкую падставу?**

— Падстава зусім рэальная, а я, будучы гісторыкам, ніколі не вызначаўся танным аптымізмам. Ці ж мы не ведаем, што жыццё ставіць перад намі пытанні, на якія ці няма адказаў, ці адказы гэтыя — маласуцяшальныя? Адно з гэткіх пытанняў — аб сэнсе жыцця. Тыя адказы, якія мы маем, усё яшчэ з вялікімі пытальнікамі. І ўсё ж — таму, што мы людзі, — даводзіцца рабіць усё, каб пераадолець бессэнсоўнасць, абсурд, знайсці сваё прызначэнне і месца ў гэтым свеце.

**— Вашы пажаданні чытачам «Звязды»?**

— Хацелася б пажадаць і сабе, і іншым быць больш спагадлівымі і ўважлівымі да тых, хто жыве побач з намі.

— А яшчэ, не спыняцца на тым, што ўжо зроблена, і прыкладаць усе сілы, каб мы зноў адчувалі сябе беларусамі!

**Гутарыў Анатоль КІРВЕЛЬ.**
**г. Санкт-Пецярбург.**

## Парады на ўсякі выпадак

Вам трэба адрамантаваць водаправодны кран у кухні, а ўваходны вентыль трымае слаба. Адкрыйце кран у ваннай, потым няспраўны ў кухні выкруціце, а гняздо хутка закрыйце коркам ад бутэлькі. Вада будзе сцякаць у ванну. Пасля рамонту выміце корак і закруціце кран на месца.

***

Здараецца, што пры зачыненых дзверцах халадзільніка лямпачка ў ім не гасне — кароткая кнопка выключальніка. Надзеньце на кнопку кавалак гумавай трубкі — ён павялічыць яе даўжыню.

***

**Як адрамантаваць спіраль праса і іншых награвальных прыбораў — ведаюць усе. Аднак на месцы залучэння з-за дрэннага кантакту спіраль перагарае зноў. Ёсць парада ў вопытных гаспадароў. Зрабіце з бляхі невялічкую пласцінку 6х6 мм, сагніце пласціну пласкагубцамі. Вось цяпер рамонт закончаны.**

***

Зморшчаныя, каляныя скураныя пальчаткі пратрыце чыстай анучкай, намочанай у касторавым масле. Праз некалькі гадзін яны стануць эластычнымі і бліскучымі.

***

**Калі язычок чаравіка не трымаецца на адным месцы, зрабіце ў ім дзве невялікія дзіркі: прапушчаны праз іх шнурок дазволіць замацаваць язычок чаравіка ў патрэбным становішчы.**

## І шкло не падрапаецца...

Акенца індыкатара ў камп'ютэрах, дазіметрах, іншых прыборах звычайна робіцца з пластмасы. Але з цягам часу, як бы старанна ні абыходзіліся з прыборам, яно пакрываецца дробнымі і нават буйнымі драпінамі. А гэта перашкаджае нармальна счытваць паказчыкі з прыбора.

Каб пазбегнуць драпін, можна на гэтае акенца наклеіць тонкую празрыстую плёнку або стужку, стараючыся, аднак, каб клей не трапіў на акенца. Практычна не перашкаджаючы рабоце з прыборам, плёнка захоўвае акенца ад пашкоджання.

З цягам часу сама плёнка можа пашкодзіцца. Але яе замяніць, вядома ж, прасцей, чым акенца.



## Пераносная вяндлярня

Вяндлярню, якую вы бачыце на малюнку, вырабляе адзін з заводаў у Мардовіі. Але яе можна зрабіць і ў хатніх умовах. Яна прызначана для гарачага вэнджання мясных і рыбных вырабаў. Складаецца з накрыўкі (1) з гідразатворам (2) — служыць для закрыцця выхаду дыму ў памяшканне: крыжавіны (3) — для падвешвання вырабу; тлушчаразбіральніка (4) — для збору тлушчу; ручкі (6) для пераносу прыстасавання і дна (5).

## Засцярога дома ад шашаля-шкодніка

**«У бэльках з таполі завяліся нейкія жучкі, якія разбураюць іх. Такая ж бяда ў многіх маіх суседзяў, некаторым нават прыйшлося памяняць бэлькі, перакрыцці. Парайце, як засцерагчы дом ад згубнага нашэсця жучкоў».**

**(З пісьма).**

Будынкі паражоныя вусачом. У трэшчыны і шчыліны драўніны самкі адкладваюць яйкі. Праз два-тры тыдні з іх выводзяцца лічынкі, якія пачынаюць прагрызаць у дрэве хады ўздоўж валокнаў. Пры спрыяльных умовах развіццё лічынкі доўжыцца два гады, пры неспрыяльных — восем — дванаццаць гадоў. Жукі добра лятаюць і хутка трапляюць з аднаго заражанага дома ў суседні.

Рамонт будынка лепш рабіць у сухую пару года. Калі ў драўніне толькі асобныя лётныя адтуліны і яна амаль не разбурана, можна абмежавацца спрынцаваннем заражаных частак. У кожную адтуліну ўводзіцца шпрыцам або маслёнкай вадкі прэпарат, ядавіты для жучкоў. Калі адтулін вельмі многа, трэба ручным пэндзлем моцна прамазаць іх тым жа растворам. Прамазку паўтараюць два-тры разы з перапынкам на два-тры дні. Абмазваць трэба і незаражаныя краі драўніны, прыкладна на 0,5—0,7 метра больш. Можна камбінаваць спрынцаванне з прамазкай. Пасля апрацоўкі ўсе адтуліны павінны быць закрыты якой-небудзь замазкай або пастай. Калі ў апрацаваных месцах з'явяцца новыя лётныя адтуліны, апрацыю трэба паўтарыць.

У выпадку моцных гнездавых пашкоджанняў, а ўвогуле пры любой ступені пашкоджання лёгказмяняемых асабліва важных элементаў будынкаў (лагі, падлогі, абвязка перагародак і гэтак далей) заражаныя часткі неабходна выпілоўваць і знішчаць, замяняючы іх новымі. Новыя часткі, месцы злучэнняў, а таксама месцы, падвергнутыя пастаяннаму ўвільгатненню, якія часцей за ўсё пашкоджваюцца насякомымі, неабходна антысепціраваць. Дрэва апрацоўваюць антысептыкам з дапамогай пэндзля або апырскваюць з гідрапульта. Паколькі драўніна прамочваецца неглыбока, на два-тры міліметры, то апрацоўку паўтараюць некалькі разоў.

Найбольш адказныя часткі драўляных канструкцый прамочваюць пастамі, якія засцерагаюць драўніну на многія гады. На паверхню дрэва наносяць тонкі слой паўвадкай пасты, якая складаецца з сумесі парашку антысептыку, клейкага рэчыва і вады. Антысептыкам звычайна бывае фторысты натрый, а клейкай асновай — спіртавая барта, экстракт сульфітных шчолакаў, адмучаная тлустая гліна і іншыя вязкія пластычныя рэчывы, якія шчыльна прыклейваюцца да драўніны. Можна выкарыстаць і 10-працэнтны раствор пентахлорфеналяту натрыю ў ацэтоне. (На 1 $м^2$ паверхні расходуецца каля 1 л раствору). Гэты састаў надзейна засцерагае драўніну на працягу пяці гадоў, але ён ядавіты і разбурае фарбавальны слой. Таму яго прымяняюць толькі на асобных дэталях. У продажы бываюць камбінаваныя саставы (напрыклад, дэзінсекталь), 80-працэнтны дынітрафеналят натрыю ў вадзе, 10-працэнтны раствор ліндану або 100-працэнтны раствор тэхнічнага гексахларану ў ацэтоне. Імі абмазваюць заражаныя паверхні, а таксама ўводзяць у адтуліны.

Супраць вусачоў эфектыўныя рэчывы, у саставе якіх пераважае гексілтыафен. Яны ўтвараюцца пры перагонцы бітумінозных сланцаў (фракцыі пры тэмпературы 230—250 градусаў С), лёгка пранікаюць у драўніну хвойных парод, валодаюць моцным кантактным дзеяннем і амаль імгненна знішчаюць насякомых у іх хадах. Гэтыя рэчывы ў той жа час не ядавітыя для чалавека.

**(Па матэрыялах часопіса «Наука и жизнь»).**



ЗРАБІ САМ

## Дыпламат-столік

а) 1— створкі; 2— ручка; 3— ножкі; 4— месца пад радыёпрыёмнік.

б) 1—шарнір; 2—штыры мацавання; 3— вушкі для мацавання.

Для дыпламата патрэбны дошкі 10-12 мм для вырабу каробкі. Для ножак спатрэбіцца фанера —10 мм. Усё астатняе відаць на малюнку.

## Капрызныя дзверы

**Што рабіць, калі дзверы заўсёды скрыпяць?**

**В. КАРАЛЕНКА.**

**г. Добруш.**

Скрыпучыя дзверы, гэта, канешне, непрыемна. Аднак справу можна паправіць. Крыху прыўзніміце з дапамогай малатка, сякеры або металічнага лома, а петлі змажце машынным маслам ці свіным тлушчам. Пасля гэтага некалькі разоў адкрыйце і закрыйце дзверы, пакуль змазка не размяркуецца па восях петляў. Потым дзверы апусціце і прывядзіце ў нармальны стан.

Калі дзверы «заядаюць», то перш за ўсё трэба праверыць, ці добра яны закрываюцца. Магчыма, яны проста чапляюць падлогу. У такім выпадку дастаткова проста падняць іх на 1—2 міліметры, надзеўшы на восі петляў металічныя шайбачкі. Калі няма шайбачак, можна замяніць іх дротам з цвёрдага сплаву, які трэба наматаць на металічны стрыжань дыяметрам, роўным дыяметру пятлі.

